# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (269) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 23 КРАСАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## УСЕАГУЛЬНАЯ ПАДТРЫМКА ПРАГРАМЫ ФРОНТА АДЗІНСТВА НАРОДА

16 красавіка, у 6 гадзін раніцы, адкрыліся памяшканні амаль 18 тысяч акруговых выбарчых камісій на тэрыторыі краіны. Пачаўся палітычны акт самай вялікай вагі — выбары ў Сейм і рады нарадовыя. На ўпрыгожаных вуліцах гарадоў, на вясковых дарогах, уквечаных першай зелянінай, з'явіліся ўжо перад 6-тай гадзінай групкі выбаршчыкаў. Гэта тыя, што пастанавілі галасаваць неадкладна пасля адкрыцця выбарчых памяшканняў, што першымі жадалі выказаць сваю падтрымку для выбарчай праграмы ФАН — праграмы цэлага народа.

Урачыста прашлі выбары на Беласточчыне. Шмат акругаў, па жаданні выбаршчыкаў, адчынена ўжо а 5 гадзіне раніцы. Але выбаршчыкі прыходзілі яшчэ раней. Максім Стоцкі і Цімох Харкевіч з Лукі ў Гайнаўскім павеце прышлі да свайго выбарчага ўчастка ўжо а 2-гай гадзіне ночы. Яны жадалі быць абавязкова першымі сярод галасуючых. Свой патрыятычны абавязак шмат жыхароў выканала дэманстрацыйна — ідучы на выбары цэлай грамадай. Між іншымі так зрабілі жыхары вёсак Махнатае і Альхоўка ў Гайнаўскім павеце. Жыхары іншай гайнаўскай вёскі, Тарнопаля, прыехалі да выбарчага ўчастка з аркестрам, з транспарантамі і на святочна ўпрыгожаных фурманках.

Трэба тут адзначыць, што найбольшую актыўнасць у Беластоцкім ваяводстве праявілі жыхары Гайнаўскага павета, дзе ўдзел у выбарах прынялі 98,7 працэнтаў выбаршчыкаў; другое месца ў ваяводстве заняў Беластоцкі павет, у якім галасавала 98, 2 працэнтаў выбаршчыкаў.

Першай на Беласточчыне прагаласавала вёска Мастаўляны ў Беластоцкім павеце, дзе ўжо да 8-ай гадзіны раніцы ўсе выбаршчыкі споўнілі свой патрыятычны абавязак.

Ад самай раніцы на выбарчых участках наглядалася вялікая актыўнасць выбаршчыкаў, аднак найбольш галасавала ў гадзінах пасляабедзенных. Галасуючы за спіскі кандыдатаў Фронта адзінства народа, выбаршчыкі выказвалі свой давер народнай уладзе і зразуменне для палітыкі нашай дзяржавы.

Паддік сумлення

## БАЛАНС ГОДА ВОПЫТАЎ

Апярэджваючы факты, можна сказаць, што трэці год існавання фонда развіцця сельскай гаспадаркі і арганізацыі сельскагаспадарчых гурткоў павінен нам прынесці далейшую стабілізацыю правільнага напрамку ў нашай сельскай гаспадарцы. 1960 г. быў годам навукі на штодзень, годам асаблівага набыцця вопыту ў арганізацыі, развіцці і кіраванні гаспадаркай сельгасгурткоў. Памінаючы недахопы ў належным і гаспадарскім выкарыстанні фонда развіцця сельгаспадаркі і недахопы ў арганізаванні працы ў многіх сельгасгуртках нашага ваяводства, агульны баланс за мінулы год мае дадатную вымову.

На запланаваную суму фінансавых сродкаў у рамках фонда развіцця сельскай гаспадаркі на 1960 г. — 179.949 тыс. зл. — уплыў налічвае 205.889 тыс. зл (114%). Найбольшы ўдзел у стварэнні фонда маюць паветы: Ломжынскі — 8,4%, Бельскі 8,1%, Сямяціцкі — 7,8%, Высока - Мазавецкі — 7,4% і Беластоцкі 7,1%; разам 38%. Цікава пры гэтым параўнаць наступнае. Плошча сельскагаспадарчых угоддзяў 5-ці гэтых паветаў займае толькі 35% плошчы ўсіх угоддзяў у ваяводстве. Гаворыць гэта аб сумленным вы-

(Працяг на стар. 4)



МАСЕВА. Гайнаўскі павет.

Фота М. Тарасевіч



Яўгень Вучэціч. ПРАЕКТ ПОМНІКА В. І. ЛЕНІНУ (фрагмент)

Эдзі АГНЯЦВЕТ

## НАД ПАРТРЭТАМ

За цэлы вечар не прамовіў слова
Мастак, якому адзінаццаць год.
Што бачыць ён, трымаючы аловак?
Далёкі край,
чапаеўскі паход?

Ці ходзіць ён з героямі Гайдара —
Цімура выратоўвае з бяды?
Ён чырванее.
Бачу я на твары
Дзіцячай, шчырай радасці сляды.

Над сшыткам нахіліўшыся старанна,
Ён засланіць не мог любві сваёй!
Хай гэта толькі кропля з акіяна
Любві людской — глыбокай і святой.

Я падышла паціху да малога.
Мне глянуць удалося з-за пляча:
У сшытку рысы твару дарагога,
Ёсць штосьці ад жывога Ільіча!

І хоць партрэт зусім недасканалы
(Мастак, як кажуць, свой шукае шлях),
А я знайшла, душою разгадала
Жыцця іскрынкі ў рысах, у вачах.

І, можа, дзесьці ў Індыі далёкай,
Пад небам поўдня ў той жа самы час
Малюе хлопчык
гэты ж лоб высокі
І ясны позірк, звернуты да нас.

...Спакойна ў доме.
Спіць мастак шчаслівы,
У сне ён новы адкрывае свет...
А нанач пад падушку клапатліва
Схаваў ён незакончаны партрэт.

## Пятро Глебка ў Варшаўскім аддзеле БГКТ

Нядаўна ў Польшчы гасціла група савецкіх пісьменнікаў, сярод якіх знаходзіўся выдатны беларускі пісьменнік, Пятро Глебка. 25 сакавіка ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адбылася сустрэча з беларускім госцем. П. Глебка на просьбу шматлікіх прысутных на сустрэчы членаў і сімпатыкаў БГКТ расказаў аб сучасным стане беларускай паэзіі, прозы, драматургіі, кіносцэнарыя, расказаў таксама аб сваім творчым шляху і прачытаў шмат вершаў. На просьбу госця чыталі свае вершы мясцовыя паэты — Алесь Барскі, Яша Бурш, Дзмітры Шатыловіч і Віктар Швед.

В. Ш.

## Новы пункт продажу «Нівы»

Вядома, што кожны вечар збіраецца ў памяшканні БГКТ у Беластоку шмат членаў і сімпатыкаў Таварыства. Яны заўсёды звярочвалі ўвагу на той факт, што тут ніколі не можна было набыць беларускага штотыднёвіка. Выказваліся пажаданні, каб таварыства наладзіла продаж «Нівы» ў сваім памяшканні. І вось насустрач гэтым пажаданням ад 1 красавіка адчынены тут кіёск, які добра забяспечаны нашым штотыднёвікам.

К. Хлябіч

# ГОСЦІ З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

21 красавіка 1945 года ў Маскве быў падпісаны дагавор аб дружбе, узаемнай дапамозе і гаспадарчым супрацоўніцтве паміж Савецкім Саюзам і Польскай Народнай Рэспублікай. 16 год, якія мінулі ад гэтага часу, выдалі багаты плён дружбы. Плён гэты адлюстроўваецца не толькі на прыкладзе шматлікіх прадпрыемстваў і прамысловых камбінатаў, якія выраслі ў нашай краіне пры выдатнай дапамозе Савецкага Саюза, але сустракаецца на кожным кроку.

Як паслядоўнасць падпісанага 16 год таму дагавору, з кожным днём усё больш замацоўваюцца братнія сувязі паміж Гродзенскай вобласцю і Беластоцкім ваяводствам. Ажыццяўляючы план прыгранічных узаемных кантактаў нядаўна пабывала на Беласточчыне дэлегацыя сельгаспадарчых дзеячоў Гродзенскай вобласці.

Дэлегацыю савецкіх сяброў узначальваў намеснік загадчыка сельгаспадарчага аддзела Гродзенскага Абкома КПБ тав. **Уладзімір Іванаў.** Членамі дэлегацыі былі: аграном саўгаса «Валкавыск», **тав. Тамара Сулім**, старэйшы інспектар па сельгаснарыхтоўкам Карэлічскага раёна, тав. **Мікалай Ханько,** заатэхнік калгаса ім. Сталіна Навагрудскага раёна, тав. **Сцяпан Голуб** і старшыня калгаса «Гвардыя» Берастаўіцкага раёна, тав. **Андрэй Варанецкі.**

Ўсе члены дэлегацыі — выдатныя спецыялісты па сваёй прафесіі. Усе яны закончылі вышэйшыя сельскагаспадарчыя зучэбныя ўстановы, усе яны зараз непасрэдна звязаныя з сельгасвытворчасцю.

Прабывалі яны ў нас толькі пяць дзён, але ўсе гэтыя дні прайшлі незвычайна працавіта. Савецкія госці цікавіліся, зразумела, перш за ўсё арганізацыяй і напрамкамі развіцця сельскай гаспадаркі ў Польшчы, а ў прыватнасці — на Беласточчыне. Наведалі яны сельгасгурток у Бранску, ПОМ у Бельску Падляшскім, ПГР у Рудцы і ў Кнышыне; знаёміліся з працай сельскагаспадарчага вопытнага прадпрыемства ў Бебжы і ў Шэпятове; сустрэліся з кааператыўшчыкамі з Крывой і Дарожак; наведалі базу гандлёвага прадпрыемства машын і сельскагаспадарчых прыладаў у Беластоку.

Усюды шчыра дзяліліся сваімі заўвагамі, апавядалі аб сваіх змаганнях за развіццё сельскай гаспадаркі на Гродзеншчыне.

Савецкіх таварышоў, усюды, дзе б яны не былі, прыймалі вельмі сардэчна. Дзеля прадаўжэння сяброўскіх сувязей, праўленне кааператыва ў Дарожках вызвала калгас «Гвардыю» на сацыялістычнае спаборніцтва ў галіне павышэння ўраджайнасці і сельскагаспадарчасці Савецкія таварышы ахвотна прынялі гэты заклік. Астаецца тады пажадаць поспехаў у гэтым высокародным мерапрыемстве.

**В. РУДЧЫК**



**Аграном саўгаса «Валкавыск», Тамара Сулім і намеснік (пасярэдзіне) загадчыка сельгасаддзела Гродзенскага Абкома, як і іншыя члены дэлегацыі, з увагай знаёміліс са станам і развіццём сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. Спадарожнічае ім Язэп Родзік, старшыня Ваяводскага праўлення сельгасгурткоў.**

фота — **А. Здрадоўскі**

З жыцця БГКТ

## Сямяціцкія навінкі

У сакавіку моладзь вёскі Машчона Панска заснавала гурток БГКТ, у які запісалася 15 асоб. Старшынёй гуртка выбраны Ян Каліта, сакратаром Зося Барысюк, скарбнікам Ян Каралюк. Моладзь вырашыла энергічна ўзяцца за разгортванне культурнай працы.

У сакавіку, на сходзе гуртка БГКТ у Вульцы Нурэцкай, вырашана супольна з гуртком Саюза сялянскай моладзі ў рамках передвыбарчых чынаў абсадзіць плошчу вакол святліцы фруктовымі дрэўкамі. У рады членаў БГКТ уступіла ў Вульцы Нурэцкай 8 новых членаў.

2 красавіка заснаваўся гурток БГКТ у Мікулічах, у які ўступіла 8 асоб. Пасля выбараў праўлення абмяркоўваўся план працы гуртка.

У Тымянцы па ініцыятыве членаў БГКТ арганізавана матацыкловы курс, у якім прымае ўдзел 35 асоб. Сярод іх шмат сялян з суседніх вёсак. Тут у сакавіку знаходзілася выстаўка «З жыцця БССР», якая зараз перавезена ў Вульку Нурэцкую.

У Рагачах была адчынена выстаўка, адлюстроўваючая беларускае народнае ткацтва і гафт. Зараз гэта выстаўка знаходзіцца ў Вульцы Нурэцкай.

**Міхась Вішэнка**

## У Дуброве аддзел

6 красавіка ў Дуброве адбыўся сход беларускага актыву, на якім створана Арганізацыйны камітэт Павятовага Аддзела БГКТ. Старшынёй камітэта выбраны Іван Кіндзюк, а членамі — Мікалай Самойлік, Іван Каліноўскі, Павел Грыгарук і Мікалай Санік.

Ужо наладжана гутаркі на беларускай мове праз павятовы радыёвузел. Вырашана таксама пашырыць падпіску «Нівы».

## БЕЛАРУСЬ У ТРЭЦІМ ГОДЗЕ СЯМІГОДКІ

працяг са стар. 2

прадуктаў на 17 працэнтаў, швейных вырабаў на 8,3 працэнта, скуранага абутку на 9 працэнтаў, халадзільнікаў на 30 працэнтаў, швейных машын на 10 працэнтаў, мэблі на 21 працэнт.

У 1961 годзе за кошт дзяржаўных сродкаў прадугледжваецца ўвядзенне ў карыстанне жыллёвых будынкаў агульнай плошчай у 1228 тыс. кв. метраў. Па індывідуальнаму жыллёваму будаўніцтву за кошт сродкаў рабочых і служачых пры дапамозе дзяржавы прадугледжваецца пабудаваць і ўвесці жыллёвыя будынкі агульнай плошчай у 550 тыс. кв. метраў.

Калі разыходзіцца пра школьныя справы, дык цікава, напрыклад, што колькасць студэнтаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных вучэбных устаноў дасягне ў 1961 годзе 133.5 тысяч, або на 15.9 працэнтаў больш чым у 1960 годзе.

— Няшмат. Зусім няшмат. Рызыкнуць жыццём. Толькі гэта? — Кузняцоў засмяяўся. — Ты жартуеш, Ортэль. Я жыццём рызыкаваў неаднойчы, аднак нічога за гэта не атрымаў, апроч стужкаў на грудзі.

— Справа ў тым, дзе і як рызыкаваць. Сёння фюрэр патрабуе нашай дапамогі...

### ФОН ОРТЭЛЬ АДКРЫВАЕ ТАЙНУ

Зыбарт моўчкі слухаў.

І тады фон Ортэль сказаў яму нарэшце, куды ён збіраецца накіраваць свае крокі. Ён едзе на самы рашаючы участак фронта. І туды трэба прыехаць з камфортам, на прыгожай машыне і што асабліва, трэба ўмець насіць цывільнае.

— Не разумею. Дзе ж тады гэты твой «рашаючы» участак? — з іроніяй сказаў Кузняцоў.

— У Тэгеране, — сказаў фон Ортэль. — Там у лістападзе збіраецца Вялікая тройка: Сталін, Рузвельт і Чэрчыль... — І фон Ортэль расказаў, што ён ездзіў нядаўна ў Берлін, быў прыняты генералам Мюлерам і атрымаў спакуслівую прапанову. Зрэшты, ён можа сказаць яму проста: ёсць намер ліквідаваць Вялікую тройку. Цяпер ты разумееш нарэшце, як шчодра ўзнагародзіць нас фюрэр?

— Разумею, — сказаў Зыбарт. — Але ці ты ўпэўнены, што табе ўдасца мяне ўладзіць?

— Што за пытанне! Ты давядайся раней, каму адводзіцца адна з галоўных роляў в. ўсёй аперацыі.

Зыбарт прамаўчаў.

— Мне! — усклікнуў фон Ортэль і рассмяяўся, сам здаволены нечаканасцю прызнання.

Ён быў ужо дастаткова п'яны...

### СУСТРЭЧА З ГІТЭЛЯМ

У тую ж ноч Кузняцоў адшукаў Мікалая Струцінскага.

— Як у цябе з машынай? Ніколі яшчэ ён так не спяшаўся ў атрад, як сёння. Каб была ў яго магчымасць, ён паімчаўся бы неадкладна. Але чакала яшчэ адна справа, якую нельга было адкладаць: справа непрыемная, але неабходная — сустрэча з маёрам Гітэлям.

Перш, чым ехаць на вечарынку да Лідзіі Лісоўскай, дзе будзе Гітэль, Кузняцоў заглянуў да Валі. Ён застаў яе ў трывозе. Яна даведалася, што генерал фон Ільген, камандуючы спецыяльным войскам, пахвастаўся, што хутка ў раёне Роўна не застанецца ніводнага партызана. Ён выклікаў спецыяльную карную экспедыцыю пад камандаваннем генерала Піпера — вядомага «майстра смерці», як яго называлі фашысты. Ільген сказаў, што ён не супакоіцца да тых пор, пакуль не пагаворыць з камандзірам партызанскага атрада ў яго лагеры.

...На вечарынцы ў Лідзіі Лісоўскай, на здзіўленне Гітэля, не аказалася нікога, апроч Лідзіі, Маі ды Зыбарта, які ўжо чакаў маёра. Быў ён не адзін, а з дзяншчыком, якога чамусьці ўзяў з сабою на вечарынку.

Вечарынка цягнулася нядоўга. Гітэля звязалі, заткнулі рот кляпам і чорным ходам вынеслі на панадворак, дзе стаяла машына. Дзяншчык сеў за руль, і машына, праехаўшы некалькі вуліц, аказалася на шашы, а там, пасля некалькіх кіламетраў, павярнула ў лес.

**(Працяг за тыдзень)**

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## СЯДЗІЦЬ ГОЛУБ НА ДУБОЧКУ

Сядзіць голуб на дубочку,
Галубка на вішні.
Скажы, скажы, мой міленькі,
Што маеш на мыслі.

Ой маю я тонкі голас,
Пушчу па ляшчыне;
Ой, хто плача па матулі,
А я па дзяўчыне.

Ой, маю я тонкі голас,
Пушчу па Дунаю;
Не адну я дзеўку зманіў,
Яшчэ дзесяць маю.

Чорна хмара выступае,
Дробны дождждык будзе,
А з нашага каханечка
Нічога не будзе.

А з нашага каханечка
Ні славы, ні ўжытку,
Чорным вочкам няма спання,
А ножкам спачынку.

Запісаў **Павал ГРЫГАРУК** з Галадоў (Бельскі павет) ад маці.

 

# ІНЦЫДЭНТ

Сягоння ўручылі мне пратэстацыйную ноту.

— Падаю да вашага ведама, — піша сусед, што вашая індывідуальная курыца парушыла абшар майго агарода і разграбла градкі. Папярэджваю, што пры ўмовах паўтарэння падобнага выпадку, курыца-дыверсантка пападзе ў каструлю і будзе калектыўна з'едзена маёй працоўнай сям'ёй. Застаюся з пашанай — Кастусь.

Склікаўшы нечарговую сямейную нараду, я ўзяў аловак і зараз жа адпісаў суседу:

— Паведамляю з пашанай, што мая курыца па сваёй несвядомасці шпацыравала ў вашым агародзе і ніякіх інструкцый у гэтай справе ад мяне не атрымала. На жаль, мне вядома, што ваша свіння падкопвала асновы майго плоту і два разы прайшлася каля майго хлява, бессаромна намаўляючы ў вядомых мэтах майго не зусім узрослага парсюка. Я не меў намеру кранаць усяго гэтага, аднак калі вы прычапіліся да дурной курыцы, то ведайце, што свіння курыцы не раўня.

Пад вечар прыйшоў адказ:

— Калі з прычыны маёй свінні вы падкладваеце мне такое свінства, то я катэгарычна заяўляю, што свіння жыве ў мяне законна на грамадзянскіх правах. Яна запісана па свайму месцу жыхарства і закантрактавана ў ГС. Вашая курыца — валакіта, па колькі мне вядома, жыве зусім без запісу, зусім невядомым з'яўляецца яе паходжанне і пагэтаму яна не мае ніякіх грамадзянскіх правоў. Беручы пад увагу яе паступкі, я маю поўнае права меркаваць, што курыца з'яўляецца класавым ворагам і ў рамках гаспадарчага сабатажа свядома разграбае мой агарод.

Раніцай выходжу я на панадворак. Бачу, карова мая выйшла з хлява ды чухае сабе бок аб вугал суседавага хлява. Тут выбягае суседка ды бух каменем у карову.

— Не дазволю, — крычыць, — карыстацца твае́й аблезлай карове вуглом майго хлява.

— Дазвольце грамадзянка, — пачаў я. — Але дзе ж там, суседка не дае дайсці да слова.

— Я, — кажа, — жанчына сумленная і нічога табе не пазволю. Забяры карову, а то віламі ў бок пачастую.

— Суседзі мілыя, ці вы блёкату аб'еліся? — кажу. — Прычапіліся да курыцы, а цяпер да...

— Хочаш, дык пакажу табе, дзе я маю тваю курыцу. Патрэбна мне яна, як барадаўка на носе. Сам прычапіўся да нашай свінні, а цяпер да мяне прычапляешся. Думаеш, як Кастусь у полі дык...

— І ты не паразумнеў. Вось вернецца мой, дык навучыць цябе розуму.

— Кабетка мілая...

— Вось ужо і мілая. Ах бессаромны ты. Плюй яму ў вочы, а ён кажа, што дождж падае.

Я заткнуў вушы і ўбег да хаты, захлопваючы за сабой дзверы.

— Часта ў нас, — падумаў я, — праз глупствы вынікаюць вялікія сваркі і абмінуць іх мы не заўсёды ўмеем.

Дзядзька Лявон







Першы гатунак!

### ВАРАЖБА З РУКІ.



— І служыць табе ў арміі Чомбе!

### АДКАЗАЎ

— Калі нарадзіўся, — пытае настаўнік будучага першакласніка.

— У сенакос, — адказаў хлопчык.

**Міхась Давідзюк**
Відава




### ЧАМУ ПРЫШЛІ

У прыёмнай зубнога лекара гурба хлапчукоў. Выходзіць лекар і пытае:

— Хто, хоча вырваць зуб?

— Я! — адказвае адзін з хлапчукоў.

— А сябры?

— Прышлі паслухаць як я буду крычаць.

**Андрэй Сідарук**
Сакі

### ПРАДБАЧЛІВЫ

Аднойчы ажаніўся хлопец. Прайшоў месяц і жонка нарадзіла дзіцё. Усхваляваны муж гайшоў да столяра і заказаў 12 калысак.

— Навошта яны табе? — спытаў здзіўлены столяр.

— Не буду ж я да цябе прыходзіць штомесяц, — адказаў чалавек.

**Коля Янюк**
Барысаўка

### МАЛЮНКІ ДА ЗНАНАЙ ПРЫМАЎКІ.







## Як Станіслаў казу прадаў

У нашай вёсцы Станіслаў
Гаспадаром быў небагатым.
Таму казу толькі трымаў,
Якую пасвіў каля хаты,

Як з'ела з плоту ўсю лазу,
Страхі палову на будынку,
Тады ён вырашыў казу
Прадаць у горадзе на рынку.

З казою неўзабаве ён
На рынку скромна прымасціўся
І раптам, бачыць, тут Лявон
З суседняй вёскі паявіўся.

Лявон вядомы ўсім таргаш,
З ім лепш ужо не задавацца.
Заўсёды ездзіў на кірмаш
Купіць, прадаць, патаргавацца.

Як на бяду прыліп аднак
Да Станіслава казы галоднай
І грошы сціснуўшы ў кулак,
Цаны ён дабіваўся згоднай.

Калі ён працягнуў руку
З стозалатоваю паперкай,
Казліна — хапс і на муку
Змалола грошы як цукерку.

І тут няшчасця ўжо чакай,
Развязкі не відаць харошай,
Лявон крычыць: — Казу давай!
Стасюк: — Не атрымаў я грошай!

Як доўга б гэты бой трываў,
Мо' ваявалі б аж да гробу,
Каб нехта ім не падказаў
Прадаць казу трэцяй асобе.

Вось выхад! — закрычаў Стасюк.
Лявон параіў: — Бішча годзе!
Казу спусцілі хутка з рук.
А грошы прапілі ў гасподзе.

Там здолелі пасябраваць,
Дамоў ім весела ішлося.
І цешыліся, што прадаць
Казу так добра удалося.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**



Як адна конская сіла сотні конскіх сіл спыніла.

### ПАДЗЕЛ

— Ну і што, развёўся з жонкай.

— Развёўся.

— А як падзяліліся?

— Дзеці ўзяў я, хату жонка, а гаспадарку адвакат.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### ВЕРНЫ САБАКА

Адзін селянін прадаваў сабаку. Падыходзіць да яго пакупнік і пытае.

— Ці ён верны?

— Верны, — адказаў селянін. Я яго ўжо тры разы прадаваў і ён тры разы да мяне вярнуўся.

**Мікалай Грынявіцкі**
Асоўка

 